Народная газета

# Беларусі — прававое, а не крымінальнае грамадства!

## Выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.С.Шушкевіча на нарадзе па пытаннях законнасці і правапарадку ў Рэспубліцы Беларусь 13 лютага 1993 года

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Аб'ектыўнасць патрабуе прызнаць, што Вярхоўны Савет імкнецца пераламіць сітуацыю. Толькі на дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета разгледжаны справаздачы Пракуратуры Беларусі і Камітэта дзяржаўнай бяспекі па ўзмацненню барацьбы са злачыннасцю, прыняты Закон "Аб аператыўна-вышуковай дзейнасці", "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон "Аб міліцыі", унесены змяненні ў Крымінальны кодэкс і Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях, адобраны ў першым чытанні праект Закона "Аб узмацненні барацьбы са злачынствамі ў сферы эканомікі і з карупцыяй" і іншае.

Разам з тым, прававая база барацьбы са злачыннасцю далёкая ад дасканаласці і фарміруецца яна марудна. Страціла тэмп судова-прававая рэформа. Неабходна як мага хутчэй прыдаць ёй новы імпульс. Трэба паскорыць прынящце законаў аб барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй, аб бяспецы асоб, якія садзейнічаюць выкананню крымінальнага заканадаўства, аб унутраных войсках і некаторых іншых.

Акрамя гэтага, я глыбока перакананы, што радыкальная судова-прававая рэформа па-сапраўднаму стане садзейнічаць павышэнню эфектыўнасці барацьбы са злачыннасцю толькі пасля прыняцця новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Таму я выступаю і буду выступаць за яе хутчэйшую дапрацоўку і прыняцце Вярхоўным Саветам.

Стала прывычкай звязваць стан правапарадку ў грамадстве з работай міліцыі. На жаль, нельга лічыць яе работу здавальняючай, нават у выпадках, якія не патрабуюць складаных аператыўных мерапрыемстваў, а больш залежаць ад эфектыўнасці прафілактычнай работы.

Я наўмысна не пачынаю гаворку аб арганізаванай злачыннасці. Сёння насельніцтва пераважна занепакоена станам злачыннасці на бытавым узроўні, што непасрэдна і штодзённа кранае кожнага. Грамадзяне абгрунтавана скардзяцца на ўсплёск хуліганства, крадзяжоў, рабавання, абразлівых паводзін на вуліцах, каля магазінаў, на вакзалах і ў мясцовым транспарце, у іншых грамадскіх месцах. Насельніцтва пачало баяцца вячэрніх вуліц, а бацькі неспакойныя за сваіх дзяцей нават днём.

Жыхары шэрага гарадоў Беларусі абураюцца растучай беспардоннасцю паводзін грамадзян і цэлых іх груповак з іншых рэгіёнаў былога СССР, якія ўсё болей тут "абжываюцца", паразітуючы на нашай нацыянальнай талерантнасці, зневажаючы наш традыцыйны ўклад жыцця. Вельмі "сціплую" пазіцыю пры гэтым займаюць мясцовыя ўлады, і хацелася б ім прыгадаць, што аддзелы міліцыі — гэта аддзелы выканкамаў!

Нястрымны роcквіт прымітыўнай спекуляцыі таварамі каля магазінаў, дзе яны былі толькі што куплены самым хуліганскім чынам ці праз "чорны" ўваход, гвалтоўная скупка і перапродаж чыгуначных білетаў побач з касамі выклікаюць справядлівае абурэнне людзей. Яны задаюць усім нам банальныя пытанні: куды глядзіць міліцыя, дзе яе ўчастковы або патрульны супрацоўнік? Мы ж выплачваем падаткі, у тым ліку і на іх утрыманне і забеспячэнне. Больш таго, пытанне ставіцца ўвогуле рубам: ці здольны праваахоўныя органы кантраляваць сёння крыміналгенную сітуацыю?

Мне могуць запярэчыць, маўляў, у падраздзяленнях Міністэрства ўнутраных спраў не хапае супрацоўнікаў, аўтамабільнай і іншай сучаснай тэхнікі...

Гаворка ідзе, паўтараю, не аб надзвычайных аператыўна-вышуковых дзеяннях міліцыі: каб прыструніць хулігана, аштрафаваць парушальніка вулічнага руху, пацікавіцца наяўнасцю афіцыйнага дазволу на так званы бізнес у спекулянта, прыняць адпаведныя меры да п'янага — не абавязкова быць цалкам забяспечаным сучасным камп'ютэрным і іншым абсталяваннем, трэба проста сумленна выконваць свой абавязак. Належныя юрыдычныя правы на гэта дадзены як Законам аб міліцыі, так і іншым дзеючым крымінальным заканадаўствам, якое ніхто не адмяняў.

Неправамоцныя і спасылкі на недахоп кадраў.

Па-першае, штатная колькасць галоўных службаў міліцыі з 10 тысяч супрацоўнікаў у 1989 годзе ўзрасла на 64 працэнты і зараз складае 16,4 тысячы чалавек. А злачыннасць не зніжаецца, наадварот, яна ўзрасла. За 1992 год колькасць злачынстваў павялічылася на 19 працэнтаў, калі штаты адпаведных службаў МУС узраслі на 22 працэнты.

І хопіць спасылацца на статыстыку СНД аб нейкіх нашых дасягненнях. Ёсць і іншыя паказчыкі — у Расіі, напрыклад, узрастанне выкрыцця злачынстваў у 1992 годзе склала 29 працэнтаў, у нас — 20.

Па-другое, трэба, відавочна, пашукаць шляху больш цеснага ўзаемадзеяння з грамадскасцю, з працоўнымі калектывамі, з прыватнымі згуртаваннямі і таварыствамі.

Асобае пытанне — якасць кадраў: іх сумленнасць, вернасць абавязку, прафесіянальнай годнасці.

У параўнанні з 1991 годам на трэць узраслі злачыннасць і дысцыплінарныя парушэнні з боку саміх супрацоўнікаў Міністэрства ўнутраных спраў. У тым ліку — факты забойстваў, гвалтаванняў, прычыненняў цяжкіх цялесных пашкоджанняў грамадзянам, якіх павінны абараняць. З боку супрацоўнікаў МУС канстатаваліся грубейшыя парушэнні правоў чалавека: неабгрунтаванае прыцягненне да крымінальнай адказнасці, неправамернае выкарыстанне зброі, рукапрыкладства, фальсіфікацыя матэрыялаў... Сярод зафіксаваных парушэнняў з удзелам супрацоўнікаў МУС — крадзяжы, рабаванне, разбой, хабарніцтва, хуліганства, спробы ўтойвання злачынстваў, страта зброі, якая магла трапіць, дарэчы, да крымінальнага асяроддзя. Уражвае, што сярод 3,5 тысячы пакараных за дысцыплінарныя правіннасці ёсць і начальнікі саставу органаў МУС, гэта значыць тыя, каго выпеставала і вылучыла на высокія пасады Міністэрства ўнутраных спраў. Пашана і хвала кіраўніцтву міністэрства за выкрыццё і пакаранне злачынцаў і парушальнікаў сярод сваіх падначаленых. Але ж гэта і відавочны брак у кадравай рабоце.

Растучая тэндэнцыя правапарушэнняў сярод супрацоўнікаў МУС сведчыць аб нездавальняючай сістэме кантролю за службовай дзейнасцю і паводзінамі падначаленых з боку кіраўніцтва, якое без хуткіх, энергічных і рашучых мер можа страціць надзейны ўплыў на развіццё сітуацыі.

Не прэтэндуючы на бясспрэчнасць ідэі, скажу: сёння, як ніколі, маецца пэўная магчымасць выбару кандыдатаў на службу ў міліцыю. Я маю на ўвазе як параўнальна нядрэнную заработную плату (дарэчы, кіраўнік раённага аддзела Міністэрства ўнутраных спраў атрымлівае столькі, колькі доктар навук, прафесар, вучоны самага высокага рангу), так і адпаведныя льготы, якія ёсць у работнікаў МУС. Гэтым можна прывабіць і высокасумленных скарачаемых кадравых ваеннаслужачых Узброеных Сіл, якія скарачаюцца. Тым больш, што гэтыя людзі пераважна фізічна моцныя і высокаадукаваныя, а іх прафесійная "канверсія" наўрад ці патрабуе многа часу і сродкаў. Былі б толькі жаданне і намаганні з боку адпаведных кадравікоў.

Нельга не звярнуць увагу пракуратуры, якая прызвана наглядаць за станам законнасці, на хібы ў паднаглядных ведамствах, а тым больш — ва ўласным. Жаху варта, калі без яе ведама ў лістападзе 1991 года ўзброеныя прадстаўнікі замежнай (літоўскай) паліцыі арыштавалі і вывезлі з тэрыторыі суверэннай Беларусі асобу без грамадзянства Смоткіна, правы якога абараняліся нашым заканадаўствам. Дарэчы, садзейнічалі, больш таго, актыўна дапамагалі гэтаму дэспатызму зноў жа супрацоўнікі і нават кіраўнікі Міністэрства ўнутраных спраў.

Не ўзгаднілі з мясцовай пракуратурай сваіх дзеянняў кіраўнікі Віцебскай абласной міліцыі А.Ф.Кляшчонак і А.П.Ліпскі, а таксама начальнік Полацкага гараддзела А.Д.Драгун. Не зрабіў пэўнай юрыдычнай ацэнкі ўзнікшай сітуацыі кіраўнік крымінальнага вышуку Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі В.М.Казлоў, ды і вышэйшае кіраўніцтва МУС не перашкодзіла сваім падначаленым патураць беззаконнасці. Відавочна таму ў кастрычніку мінулага года дзікунства паўтарылася, цяпер ужо з боку расійскіх праваахоўнікаў адносна нашых грамадзян Коўзана і Навіцкага. А чыя чарга прыйдзе заўтра?

Між тым, калі іншаземныя праваахоўнікі спрабавалі правесці аналагічныя акцыі на Украіне, іх тут жа арыштавалі. А ў Беларусі быццам бы ўсё можна. Вялікае абурэнне выклікае і той факт, што да нас прыехалі без усялякіх перашкод узброеныя людзі.

А вось прыклад іншага плана. Кіраўнікамі Барысаўскага гарсавета С.Ф.Шыдлоўскім і Г.І.Кучук груба парушаны патрабаванні заканадаўства Беларусі аб уласнасці і арэндзе, што было адзначана ў лістападзе мінулага года саветам Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь. Пракурор жа А.Д.Хадатовіч не толькі не прызнаў выяўленых фактаў, але ўпарта апраўдвае беззаконнасць. Можа, таму і "не даходзяць рукі" ў мясцовых улад і праваахоўных органаў Барысава да эфектыўнай барацьбы са злачыннасцю, дзе яе ўзровень значна вышэй у параўнанні з іншымі гарадамі такога рангу.

Дарэчы, у нас існуе перакананне, што буйныя гарады — абавязкова гарады з высокай крыміналгеннасцю. Але гэта толькі ў тым выпадку, калі з гэтым змірыліся выканкамы, якія не патрабуюць ад сваіх аддзелаў міліцыі эфектыўнай работы. Орша, якая традыцыйна лічылася месцам некантралюемага разгулу злачыннасці, сёння ўяўляе сабой зусім іншы прыклад. Тут пайшла на спад вулічная злачыннасць. Па разгляду крымінальных спраў — лепшы паказчык у Віцебскай вобласці. А ў 1992 годзе раскрыты ўсе буйныя кватэрныя крадзяжы. На 40 працэнтаў знізілася колькасць хуліганскіх парушэнняў. І гэта, заўважце, у той Оршы, якая ўся выходзіла, так сказаць, на барыкады супраць афіцыяльнай улады. Я вельмі хачу, каб гэтыя сціплыя поспехі, падкрэсліваю, сціплыя, не замарудзілі станоўчую работу Аршанскага гарвыканкама. Працуйце і далей так, паважанае спадарства.

На жаль, прыгаданыя і многія іншыя парушэнні і ігнараванні законаў мяжуюць з нізкім узроўнем маральнасці, сумленнасці і законапаслухмянасці саміх кіраўнікоў.

Я спынюся толькі на некаторых асобных фактах, якія выявілі ў апошні час Кантрольная палата, КРУ Мінфіна і падатковая інспекцыя, Міністэрства ўнутраных спраў, Пракуратура Рэспублікі Беларусь.

Дзяржаўнае прадпрыемства па знешнеэканамічнай дзейнасці пры Віцебскім аблвыканкаме (кіраўнікі прадпрыемства: П.В.Драздоў — першы намеснік старшыні аблвыканкама, У.С.Пясоцкі — начальнік аддзела па знешнеэканамічных сувязях аблвыканкама), ігнаруючы статут прадпрыемства, займаліся гандлёва-пасрэдніцкай дзейнасцю. Рашэннем аблвыканкама ад 24 лютага 1992 года N 55 у парушэнне артыкула 4 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб падатках і зборах, спаганяемых у бюджэт Рэспублікі Беларусь", прадпрыемства незаконна вызвалена ад выплаты падатку на прыбытак. Аб дзейнасці прадпрыемства не прадстаўляліся неабходныя звесткі статыстычным органам, не ажыццяўляўся бухгалтарскі ўлік. І гэта верхавіна абласной улады. Як вынік — Рэспубліцы Беларусь прычынены ўрон у суме 51,4 мільёна рублёў у цэнах 1992 года. Нягледзячы на прадстаўленыя ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусь матэрыялы з патрабаваннем правядзення расследавання, справа валакіціцца.

Ёсць і больш дробныя прыклады. Так, напрыклад, не па прызначэнню пайшлі валютныя сродкі, пералічаныя Смаргонскім заводам станкабудавання для падрыхтоўкі нашых спартсменаў да Алімпійскіх гульняў. Фактычна яны выкарыстаны на аплату турпуцёўкі ў Барселону дырэктару завода С.А.Пеліху. Хаця камандзіроўка яму была выпісана ў Маскву і Краснагорск, за што ён таксама атрымаў грошы.

Нельга пакінуць без дакору і супрацоўнікаў ваеннай пракуратуры. Больш чым на 70 працэнтаў узрасла злачыннасць ва Узброеных Сілах рэспублікі. Амаль у 3 разы павялічылася колькасць зафіксаваных крадзяжоў дзяржмаёмасці і, самае страшнае, зброі. Не знікае яшчэ ў армейскіх калектывах разбэшчанасць, "дзедаўшчына".

Пэўны брак назіраецца і ў дзейнасці судоў. Толькі за адзін мінулы год у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь паступіла звыш 1500 лістоў і зваротаў ад грамадзян з просьбай аб пераглядзе розных судовых прыгавораў, рашэнняў і пастаноў. Зразумела, што не ўсе просьбы слушныя, але ж некаторыя з іх аказаліся і абгрунтаванымі. За кожнай жа судовай памылкай — парушэнне правоў чалавека, а, магчыма, і яго лёс.

Сёння мы, відавочна, адзіная краіна СНД, дзе асобныя кіруючыя работнікі не лічаць неабходным (я падкрэсліваю, кіруючыя работнікі) выконваць рашэнні суда, бо ў рэшце рэшт разлічваюцца за гэта не яны, а дзяржава.

Амаль тры гады цягнулася справа народнага дэпутата Баранавіцкага гарсавета Н.М.Грынчык аб узнаўленні яе на пасадзе. Гэта справа была разгледжана ва ўсіх судовых інстанцыях і ў рэшце рэшт на пленуме Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь. Яго заключэнне адназначнае: Грынчык павінна быць адноўлена на пасадзе. Тры гады старшыня Баранавіцкага гарсавета народны дэпутат Рэспублікі Беларусь М.М.Лабко змагаўся з судовымі ўладамі, рашэнне якіх яму не да спадобы... А злачыннасць у Баранавічах усё расце і расце, бо, згадзіцеся, цяжка, вельмі цяжка выхаваць законапаслухмяных падначаленых законанепаслухмяным кіраўнікам.

Выкарыстаў службовае становішча не ў інтарэсах дзяржавы і яшчэ адзін намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкама А.Г.Каралёў, які без ліцэнзіі дазволіў ажыццявіць пастаўку дызпаліва ў г.Рыгу на 150 мільёнаў рублёў. І толькі пад вялікім націскам грамадскасці Віцебскі абласны суд разгледзеў гэту справу і аштрафаваў Каралёва... аж на 7 тысяч рублёў. Там 150 мільёнаў, а тут 7 тысяч рублёў!..

Процізаконныя дзеянні дырэктара племсаўгаса "Задняпроўскі" Аршанскага раёна Ю.Г.Савіцкага нанеслі дзяржаве ўрон больш чым на 20 мільёнаў рублёў у цэнах 1991 года. Матэрыялы праверкі Кантрольнай палаты, КРУ Мінфіна былі накіраваны ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусь і Савет Міністраў Рэспубікі Беларусь для прыняцця мер да асоб, якія парушылі заканадаўства яшчэ ў жніўні 1992 года, а вынікаў да гэтай пары няма.

Дарэчы, аб іншых праверках. У лістападзе 1992 года сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь даручыла Кантрольнай палаце, Міністэрству ўнутраных спраў, Пракуратуры, КДБ зрабіць праверку законнасці адбыўшайся прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці ў Рэспубліцы Беларусь. Я інфармаваны аб яе першых выніках. Не хачу рабіць глыбокіх высноў, але мяне ўразіла інфармацыя Міністэрства ўнутраных спраў, у якой прыводзяцца факты парушэння законаў кіраўнікамі, але не вышэй начальніка раённай сельгасхіміі. Я б хацеў, каб несумленнасць не ўздымалася вышэй азначанага ўзроўню, але і дэпутаты ўсіх узроўняў, і сродкі масавай інфармацыі, і справаздача старшыні КДБ на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, і матэрыялы Кантрольнай палаты пярэчаць таму.

Як бачыце, поле дзейнасці па дадатковаму выкарыстанню ўнутраных рэзерваў у інтарэсах аздараўлення агульнага становішча маецца ва ўсіх праваахоўных органах. Што ж да неадкладных канкрэтных крокаў у барацьбе са злачыннасцю, то хацелася б пачуць сёння аб'ектыўную ацэнку праблемы і вашы меркаванні аб шляху яе вырашэння.

Хачу дадаць, што паступілі ўжо пэўныя прапановы. Яны вывучаюцца. Я запрашаю ўсіх да канструктыўнай размовы на карысць нашаму грамадству.

Дзякую за ўвагу.

*Конфликтная ситуация*

# Финты под сенью Фемиды

Павел СТАСЕВИЧ

**"У нас по-прежнему кто начальник — тот и прав, — считает директор столичного предприятия "Автосервис и торговля" Иосиф Стронгин. — Даже для самого председателя Высшего хозяйственного суда республики Владимира Бойко многократные судебные решения — не указ..."**

Суды, граждане, надо уважать. Как бы трудно ни приходилось. Особенно — хозяйственные.

Именно поэтому И.Стронгин от имени коллектива бывшей станции техобслуживания, превратившейся после приватизации в коллективное предприятие ПКП "Автосервис и торговля", выяснять возникшие отношения с коллегами из минского городского предприятия "Автомотосервис и торговля" на кулачках не стал. И честно ринулся под сень Фемиды.

Дело было на исходе минувшего лета. Хозсуд Минской области иск принял, выявив сущность спора: истец просит вынести решение о выселении МГП "Автомотосервис и торговля" из занимаемой им части административного здания, складского помещения и с охраняемой стоянки автотранспортных средств на территории предприятия в связи с заключением договора выкупа госимущества трудовым коллективом арендного предприятия.

Ответчик иск не признал, мотивируя это неправильным разделением баланса приватизируемого имущества между бывшими подразделениями городского предприятия.

Дело вел судья В.Капустик, и его мнение официально выразилось в следующем: "Учитывая, что по требованию истца ответчик освободить занимаемые им помещения в административном здании, складах и на открытой стоянке добровольно отказался, заявление истца о выселении ответчика из незаконно занимаемых им площадей является правомерным и подлежит удовлетворению".

В общем ответчик в лице МГП "Автомотосервис и торговля" оказался еще тот.

Поэтому суд колебался недолго, решив: "Обязать МГП "Автомотосервис и торговля" освободить занимаемую им часть административного здания пл. 263,2 м², складского помещения пл. 589,5 м² и охраняемой стоянки автотранспортных средств на территории предприятия пл. 1615 м² в срок до 26 сентября 1992 г."

Понятно, что такое решение могло понравиться только идеалисту-романтику. Ответчики обратились с жалобой по тому же адресу. И Минскому хозсуду пришлось давать "отбой": "Учитывая, что вышеназванное дело истребовано Высшим хозяйственным судом Республики Беларусь для проверки и исследования... исполнение решения по делу от 26 августа 1992 года приостановить".

"Проверки, а тем более "исследования" у нас, как известно, тянутся долго и всегда кончаются чем-нибудь интересным.

Через месяц, 23 октября, председатель хозяйственного суда Минской области Г. Марковский констатировал, что и судья В.Капустик был прав: "Являясь собственником выкупленного имущества, истец имеет право распоряжаться им в установленном законом порядке, а поэтому его требования об освобождении части зданий, занимаемых ответчиком, по причине нежелания последнего вступить с истцом в договорные отношения по их использованию, являются обоснованными.

Решение хозяйственного суда Минской области по делу оставить без изменения".

Говоря по-простому, ответчику надо выселяться в определенные сроки и без лишнего шума — закон явно не на его стороне.

Но время идет быстро, а конкретные действия замерли надолго. Однако несмотря на то, что дело уже однажды истребовалось, Высший хозяйственный суд по очередной жалобе МГП вновь его истребует. И при этом опять использует свое право приостановить исполнение решения о выселении.

Наконец, 14 декабря 1992 г. Высший хозяйственный суд республики говорит свое веское и окончательное слово: "На полностью выкупленное у государства имущество трудовому коллективу предприятия "Автосервис и торговля" выдано свидетельство о праве собственности. Таким образом, к истцу в установленном законом порядке перешло право собственности на спорное имущество.

При наличии перечисленных выше обстоятельств хозяйственный суд области правомерно принял решение, удовлетворяющее исковые требования о выселении ответчика с занимаемых им площадей.

Решение хозяйственного суда Минской области от 26.08.92 г. оставить без изменения.

Определение Высшего хозяйственного суда Республики Беларусь от 30.10.92 г. о приостановлении исполнения решения по данному делу отменить."

Подписали этот документ первый заместитель председателя Высшего хозяйственного суда республики А.И.Киселев, судьи Л.Г.Черникова и Н.А.Пазычук.

Казалось бы — чего уж больше?! Есть коллегиальное решение судей, и оно однозначно.

— Ох, слабо вы знаете натуру официальных лиц... — вздохнул на днях истец И.Стронгин и протянул еще один документ. — А вот это видели?!. Ничего вроде на первый взгляд и нет такого, а вникнешь...

Не успели, что называется, еще высохнуть чернила на подписях вышеназванных подчиненных, как за дело почему-то берется сам председатель Высшего хозяйственного суда В.Бойко, хотя, понятно, он был в курсе всех дел.

И пишет он не истцу, а прямиком судебным исполнителям, обязанным исполнить решение Высшего хозяйственного суда о выселении. "В соответствии с состоявшимися судебными постановлениями... МГПА "Автомотосервис и торговля" по иску ПКП "Автосервис и торговля" подлежит выселению с занимаемых площадей.

В связи с тем, что в настоящее время рассматривается вопрос о внесении данного дела на рассмотрение пленума Высшего хозяйственного суда Республики Беларусь... приостановить исполнение решения хозяйственного суда Минской области от 26.08.92г..."

— После такого письма ночами не заснешь, — устало говорит Иосиф Стронгин. — Впечатление такое, что у нас не верховенство закона, которое установлено Конституцией, а диктатура служебных лиц. И неоднократные решения всех судов, в том числе и Высшего хозяйственного, рассматривавшего наше дело, по сути, дважды, для Владимира Бойко особого значения не имеют. Захочет — и будет тормозить дело, сколько вздумается...

Это, видимо, хорошо чувствует и ответчик в лице, скажем, того же и.о. директора Г.Н.Парахневича — он действует по принципу "и сам не гам, и другому не дам".

А этого законного выселения мы уже полгода ждем. Про упущенную выгоду тяжело и думать — суммы коллектив теряет астрономические.

И, главное, не знаем, можно ли кому дальше верить, если даже для В.Бойко многократные судебные решения — не указ? А начальник по-прежнему "всегда прав"?..

Интересные вопросы. И их И.Стронгин решил задать через "Народную газету" — орган Верховного Совета, когда обил десятки бюрократических порогов. Допекло, словом.

Кто же в нашем суверенном государстве способен дать ответ трудовому коллективу?..

*Рэпарцёр даведаўся*

# Усім — па казцы

**Беларускім дзецям пашанцавала: яны могуць не толькі чытаць ці слухаць любімыя казкі, але і напісаць уласныя цікавыя гісторыі аб захапляючых прыгодах. Самыя лепшыя з іх увойдуць у кніжку "Казкі дзяцей Беларусі".**

Такім незвычайным конкурсам заявіў аб сабе новы беларускі фонд сацыяльнай падтрымкі дзяцей і падлеткаў "Мы — дзецям".

Ён пачынаецца і мае назву "Усім — па казцы". Спадзяюся, што бацькі і настаўнікі дапамогуць дзецям знайсці сябе ў гэтым цікавым і карысным спаборніцтве і не пераблытаць адрас, куды трэба адправіць не больш як чатыры старонкі машынапісу: 220030, Мінск, вуліца Карла Маркса, 40. Пераможцы не толькі змогуць убачыць свой твор у ілюстраванай кніжцы, але і паедуць у "Артэк", "Зубраня", захапляючыя экскурсіі.

Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, Белінфарм.

*Слово в поддержку*

# Услышь меня, Светлана

**В эти дни писательнице Светлане Алексиевич не до творчества — против нее затеяли судебный процесс некоторые из тех, кто потерял сына или мужа на той грязной афганской войне. Оказывается, рано литература взялась за эту кровоточащую тему.**

В поддержку автора книги "Цинковые мальчики" на днях отслужил молебен в Ореховской церкви Оршанского района иеромонах Виталий Радомысльский. А накануне выхода номера в "Народную газету" от него, народного депутата Республики Беларусь, поступила следующая телефонограмма:

"Уважаемый господин редактор!

Прошу через Вашу газету выразить искреннее сочувствие и молитвенную поддержку замечательной белорусской писательнице Светлане Алексиевич. Да простит Господь обезумевших от горя матерей и отцов, своими озлобленными действиями невольно предающих память убиенных богопротивным коммунистическим режимом детей своих. Да осенит Он их Своей неизреченной милостью, примирит бессмысленностью принесенной некогда жертвы, дарует мир и покой их измученным сердцам."

Слова священника обращены, как нам кажется, не только к писательнице, но и к тем, по чьей воле ей приходится ходить сейчас в суд.

Иван КОРОЛЬЧУК.

*Жыццёвыя клопаты*

# Ад такіх курачак пеўнем закрычыш...

Павел МОТАЛЬСКІ

**Што яшчэ добрае ў сельскай гаспадарцы Беларусі засталося, дык гэта птушкагадоўля. Курачкі і пеўнікі на зарэз гадуюцца, нягледзячы на ўсё, спраўна. Ды й яйкі, як кажуць, яшчэ ёсць. Але ж "хваробы" пераходнага перыяду дайшлі і сюды. Трымціць ад розных праблем і гэта галіна.**

У той час, калі беларускія птушкаводы часцей жаляцца на цэны, недахоп кармоў, дарагоўлю ўсяго неабходнага для нармальнай работы і г.д., то многія грамадзяне рэспублікі пачалі падступацца да вытворцаў пер'я і яек з нечаканага боку.

Вось што, напрыклад, піша ў рэдакцыю ад імя аднавяскоўцаў жыхар в. Осава Крупскага раёна ветэран вайны і працы П. Зінькевіч.

"Паважаная рэдакцыя! Памажыце паламаць шкодныя традыцыі нашых птушкаводаў, якія зарадзіліся тады, калі яны пачалі прадаваць курачак і пеўнікаў асобна. Паколькі адрозніць іх можа толькі вопытны практык, то прадаўцы сталі замест курачак соваць пеўнікаў. І маюць на гэтым салідныя барышы, бо цана ж іх розная: раней курачка каштавала 25 капеек, пеўнік — 5, а ў гэтым годзе цэны ваганіся ад 8 рублёў за курачку і да 80 капеек за пеўніка. Розніца, як бачна, значная. А калі ўлічыць, што куранят прадаецца не адна сотня тысяч, то і навар адпаведны.

Я купляю куранят амаль кожны год (не купляў бы, але куры не квохчуць). Таму прыходзіцца звяртацца да паслуг птушкаводаў. А гэтыя паслугі часта бокам выходзяць. Купіў сёлета на сталічнай Камароўцы 20 курачак, а яны ўсе аказаліся пеўнікамі. Маёй суседцы крыху пашанцавала: з 30 куранят пяць сапраўды аказаліся курачкамі.

Такія прыклады можна знайсці ў сялян кожнай вёскі — многія абкрадзены не толькі грашыма, але і пакінуты без кур-нясушак і таму — без яек. Можа, хоць "Народная газета" дапаможа навесці парадак у важным для людзей пытанні?.."

Пытанне для вяскоўцаў, як гаворыцца, сапраўды жыццёва важнае. І таму звяртаюся за тлумачэннямі да генеральнага дырэктара рэспубліканскага вытворчага аб'яднання "Белптушкапрам" К. Дзягілева.

— Крыўда сялян зразумелая, — адказаў Кузьма Кузьміч. — Але ж да нашай фірмы, мяркую, дачынення не мае. У нашай сістэме добра наладжана перадпродажная сарціроўка куранят, гэтым займаюцца спецыяльна падрыхтаваныя людзі. І таму гарантыя дакладнасці адбору пеўнікаў і курачак — 80—85 працэнтаў.

А па-другое — мы разумеем, што такое рынак, і таму падрываць марку аб'яднання нам проста эканамічна нявыгадна. Відаць, П. Зінькевіч і іншыя вяскоўцы куплялі куранят у іншых прадаўцоў.

Што ж тычыцца ўвогуле адрознення пеўнікаў і курачак у малым узросце, то скажу: памылкі тут былі і будуць. Яны ёсць ва ўсім свеце. Кажу гэта з практыкі Сусветнага кангрэса птушкаводаў: нават самыя лепшыя спецыялісты з усіх краін стопрацэнтнай гарантыі не давалі. Адзначу, дарэчы, што прафесія "эксперта" па курачках і пеўніках, напрыклад, у Японіі — адна з самых прэстыжных і высокааплачваемых.

Так што праблема гэтая, як бачыце, жыццёва важная не толькі для беларусаў. Хочацца, каб людзі гэта ведалі. А каб не застацца без яек, мая ўсім парада: купляйце куранят у сістэме "Белптушкапрама". Гэта больш надзейна.

Вось такія, паважаныя чытачы, аказаліся курачкі з пеўнікамі. Вока ды вока за імі патрэбна. Ды яшчэ якое!..

КУРИЦА — НЕ ПТИЦА!
НУ И РУБЛЬ — НЕ ДЕНЬГИ!

Малюнак Алега ПАПОВА.

